# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 14 (1258) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 6 КРАСАВІКА 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.


КРАСУЙ НАША ДРУЖБА!

## ПРЫЕМНАЕ СПАТКАННЕ

Канкурсы савецкай песні на Беласточчыне ўжо даўно сталі культурным мерапрыемствам, якое сваім абсягам ахоплівае розныя асяроддзі. Яны ў нас надзвычай папулярныя. І на ўсіх этапах — пачынаючы ад мясцовага агляду ў клубе „Маладога гаспадара“ і канчаючы ваяводскімі элімінацыямі ў Беластоку — ім спадарожнічае асаблівая атмасфера заангажавання і цеплыні. Гэта вынік, відаць, таго, што ўдзельнікі конкурсу выконваюць мелодыі, блізкія іхняму сэрцу, часцей за ўсё тыя, якія яны любяць пасняваць ці то ў хвіліну сумнага роздуму ў адзіноцтве, ці ў час вясёлай многалюднай гасціны. Таму няма чаго дзівавацца, што на заключным урачыстым канцэрце лаўрэатаў ваяводскіх элімінацый XIX агульнапольскага конкурсу савецкай песні, што адбываўся 16 сакавіка 1980 г. у зале кінатэатра „Звёнзковец“, усе месцы былі заняты, дзесяткі людзей тоўпілася на праходах і пад сценамі, не менш жа іх з жалем адышло ад дзвярэй.

Ужо ад самага пачатку канцэрта паміж сцэнай і залай устанавілася тая ўзаемная блізкасць, якая спрые мастацкім здзяйсненням. Усе — і на сцэне і ў зале — адчувалі сябе ўдзельнікамі супольнай урачыстасці: у часе выступленняў зала дружна апладыравала ў такт мелодыям, а на перапынку людзі жыва абмяркоўвалі выкананне той ці іншай песні.

Абмяркоўваць было што, бо і рэпертуарная разнастайнасць была не малая

(Працяг на стар. 4)



*Уражанняў з канцэрта было многа і так хацелася імі падзяліцца!... Б. Бяганская і М. Гадлеўскі пасля выступленняў.*



З НАЙЛЕПШЫМІ ВЕЛІКОДНЫМІ ПАЖАДАННЯМІ! „НІВА“

МАЙСТАР НА УСЕ РУКІ!

## Васіль ВАЎРЭНЮК

Зразумела, вы незнаемы з Васілём Ваўрэнюком з Клейнік, не ведаеце, чаму я з ім вас знаёмлю. А вось чаму. З'яўляецца ён таленавітым самародным майстрам на ўсе рукі, які стаў свайго роду прафесіяналам. Але аб гэтым не адразу. Пачнем ад таго, як ён узяўся за рамяство і як з бегам часу развіваліся яго здольнасці.

Калі ў 1941 годзе немцы ў Васьках расстралялі яго бацьку, ішоў яму тады восьмы год. Апрача яго, сіратамі асталося яшчэ трое дзяцей: Грыша, Мікалай і Дуня. Найменшаму было толькі паўгода. Жылося вельмі цяжка. Іх маці, якая працавала на гаспадарцы, сама выконвала мужчынскія работы. Аднак гады ішлі хутка. Падрасталі дзеці, памагалі матцы ў працы. Васіль пачаткова пасвіў кароў у Чыжыках і Падрэчанах. Зімою хадзіў у школу. А калі дарос, ездзіў у ПГР на захад. Там даглядаў кароў, ездзіў памочнікам трактарыста. І так падзарабляў.

У 1950 годзе Васіль Ваўрэнюк пастанавіў заняцца вырабам пустакоў. Тады на вёсцы было на іх вялікае запатрабаванне. Заказаў ён формы, а што і сам зрабіў, ды пайшоў па людзях зарабляць. Да работы быў ён „гарачы“. Па 350 штук у дзень рабіў ён пустакоў. Гэта былі рэкорды цяжкай, ручной у той час працы. Людзі, якія яго наймалі, былі задаволены яго добрай і хуткай працай. Як ён сам сцвярджае, на працягу некалькіх сезонаў зрабіў не менш 40 тысяч штук пустакоў. Наступіў перапынак у вытворчасці гэтых будаўнічых элементаў тады, калі быў прызваны ў армію, гэта значыць у 1954-55 гадах.

А калі вярнуўся ён дамоў з вайсковай службы, узяўся за гаспадарку, якую неабходна было „ставіць на ногі“. Пачаў думаць і аб жаніцьбе, аб сямейным жыцці. Але найперш ажаніўся брат, дакладней — пайшоў у прымакі ў вёску Ягаднікі. Пасля выйшла замуж сястра.

Васіль тым часам рыхтаваў свой варштат-кузню, да якой прывёз кавадла аж з Варшавы ад сваяка. Прыдбаў таксама такарны станок. І вось тады каваў вазы, падкоўваў коней, наладжваў сельскагаспадарчыя машыны і прылады, стаў вядомым і шанаваным кавалём-самавукам. Зацікаўленне да сваёй асобы выклікаў вялікае, калі сам зрабіў варочалку для сена, якую можна было падчапляць да трактара.

У 1959 годзе ажаніўся з аднавяскоўкай Верай. Распачаў новае жыццё. І да яго, да аднаго з найбольш таленавітых людзей на вёсцы, не пасавалі старыя будынкі. Васіль Ваўрэнюк распачаў будову хлявоў, спіхлера, павялічыў хату.

— Пакуль жонка есці наварыць, — успамінае ён, — я кругом адзін рад палажу ў мур пустакоў, а пасля бяру касу і йду на поле да працы.

Не знаў ён тады адпачынку, працаваў ад усходу да захаду сонца. І жаданне было і сіла была. І адбудаваўся ён як трэба, аднавіў усе будынкі, збудаваў прасторную майстэрню.

8 год таму назад купіў ён з пераацэнкі трактар, адрамантаваў яго сам, і цяпер трактар працуе ненаганна. На зломе купіў бульбяную капачку, у якой была толькі рама. Цяпер гэтай машынай капае ён бульбу сабе і людзям.

Працяг на стар. 4

## ХРОНІКА

■ На справаздачна-выбарным сходзе ў Васьках (гміна Нарва), які адбыўся 5 сакавіка, члены БГКТ гаварылі аб пашырэнні дзейнасці гуртка асабліва ў галіне арганізацыі мастацкіх выступленняў у сваёй вёсцы, спатканняў з цікавымі людзьмі, у тым ліку і дзеячамі БГКТ. Затым было выбрана новае праўленне: Рыгор Герасімюк — старшыня, Сяргей Банькоўскі — намеснік старшыні, Анатоль Грыгарук — сакратар. Сход абслужыў інспектар ГП С. Самойлік.

■ У Храбустоўцы (гміна Нарва) 4 асобы прыняты ў члены БГКТ. Новае праўленне складаецца з наступных асоб: Віталіс Садоўскі — старшыня, Васіль Міранчук — намеснік старшыні, Пётр Нічыпарук — сакратар, Барбара Гайдук — скарбнік. У сходзе ўзяла ўдзел інспектар ГП М. Максімюк.

■ У Макаўцы (гміна Нарва) на сходзе прысутнічала 30 чалавек. Падчас дыскусіі звярталі яны ўвагу на недастатковую працу гуртка і гаварылі аб неабходнасці ўключацца ў конкурсы, якія арганізоўвае Галоўнае праўленне БГКТ, а таксама аб патрэбе аднаўлення грамадскім чынам свайго клуба „Рух“. У новае праўленне выбраны: Міхась Ніканові — старшыня, Ірэна Асташэўская — сакратар, Марыя Стоцкая — скарбнік. Справаздачна-выбарны сход абслужыла інспектар ГП Я. Полацкая.

■ 16 сакавіка ў Бельску адбыўся раённы агляд „Беларуская песня-80“. Справаздача ў іншым месцы.

■ 19 сакавіка справаздачна-выбарны сход адбыўся ў Дубінах (гміна Гайнаўка). Гурток гэты налічвае 37 членаў. У сходзе прыняў удзел старшыня ГП БГКТ М. Самоцік. У Дубінах добра працуе Дом культуры. Уключаюцца ў культурна-асветную працу і члены БГКТ. Цяпер рыхтуюць яны п'есу на беларускай мове, з якой плануюць выступіць на аглядзе тэатральных калектываў. Нашыя сябры выбралі новае праўленне і дэлегата на з'езд БГКТ. З'яўляецца ім Ірэна Навіцкая — намеснік дырэктара мясцовай школы. У праўленне выбраны: Рыгор Ярмац — старшыня, Крыстына Янюк — намеснік старшыні, Марыя Вашчэнка — сакратар, Вяслава Койла — скарбнік і член праўлення — Ірэна Навацкая. 5 асоб падпісала членскія дэкларацыі БГКТ.

(мх)

## ТОЛЬКІ АДНО ПЫТАННЕ

У пачатку бягучага года мы звярнуліся да начальнікаў гарадоў і гмінаў Беластоцкага ваяводства з пытаннем:

**— Што вы лічыце за найважнейшае грамадска-гаспадарчае дасягненне ў гміне ў мінулым годзе?**

Сёння адказвае:

**ЕЖЫ ШМІТКОЎСКІ, начальнік Юхнавецкай гміны:**

— Будаўнічыя дасягненні. У нас многа будуецца. У мінулым годзе многа зрабілі пры пабудове зборнай гміннай школы (будзе яна на 240 месц). У новым навучальным годзе 1980/81 яна будзе перададзена ў карыстанне. У мінулым годзе сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня ў Сальнічках пачала пабудову прадпрыемства па пераапрацоўцы фруктаў і агародніны ў Альмонтах. Сёлета яно будзе гатова.

Будуем стражацкую рамізу ў Трычоўцы. Сёлета яе адкрыем.

Распачалі мы пабудову водаправода і каналізацыі на пасёлку аднасямейных дамоў у Клеасіне. Кошт — каля 1 мільёна злотых. Сёлета гэтыя інвестыцыі будуць гатовы. Многа зрабілі мы пры пабудове асфальтаванай дарогі з Юхноўца ў Шараносы і далей да гміны Туросінь Касцельная. Аддамо яе ў карыстанне таксама ў гэтым годзе. У мінулым годзе пабудавалі мы дзевяць пачакальняў на аўтобусных прыпынках: дзве ў Юхноўцы Касцельным і па адной у Грыневічах, Лявіцкіх, Вульцы, Белях, Златніках, Трычоўцы і Войшках. У 1980 годзе пабудуем яшчэ сем і тады яны будуць ў нашай гміне на ўсіх прыпынках аўтобусаў ПКС.

У 1979 годзе закончылі меліярацыю зямельных угоддзяў вёскі Клевінова.

У мінулым годзе арганізавалася дзве сельскагаспадарчыя прадукцыйныя спулдзельні ў Яновічах і Альмонтах. Першая з іх займаецца раслінаводствам і жывёлагадоўляй і другая — вырошчваннем агародніны і пячурыц.

**Падрыхтаваў Я. Целушэцкі**

 

## Памёр П. Броўка

24 сакавіка 1980 года на 75-м годзе жыцця пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр вядомы беларускі паэт і грамадскі дзеяч Пятрусь Броўка. П. Броўку былі прысвоены званні Героя Сацыялістычнай Працы і народнага паэта БССР, быў ён узнагароджаны 4-ма ордэнамі Леніна, ордэнамі Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Дружбы народаў, іншымі ордэнамі і медалямі. П. Броўка быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, членам ЦК КП Беларусі, акадэмікам Акадэміі навук БССР, сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў СССР.

У некралогу, падпісаным высокімі партыйнымі, дзяржаўнымі і грамадскімі дзеячамі СССР і Беларусі, гаворыцца: „На ўсіх этапах жыццёвага шляху П. У. Броўка заставаўся верным сынам Камуністычнай партыі, перакананым марксістам-ленінцам, літаратарам высокага грамадзянскага пафасу і абавязку“.

### КАЛЯНДАР

**460 гадоў назад**

6.4.1520 пам. Рафаэль, італьянскі жывапісец і архітэктар.

**90 гадоў назад**

12.4.1890 нар. Я. Нёманскі (Пятровіч), беларускі савецкі пісьменнік.

* * * * * * * * *

7 IV 1910 г. „Наша ніва“ пісала:

Сёлета канчаецца тэрмін закону 1897 года аб мыце (таможэнных пошлінах) на сельскагаспадарскія машыны, каторыя выпісваюцца з заграніцы, як касяркі, жніваркі, малацілкі, лакамабілі і іншыя. Дагэтуль хто выпісваў з заграні́чных фабрык касяркі, жніваркі і сеялкі, не плаціў ніякага мыта, перавозячы цераз граніцу; плаціць на граніцы трэба было толькі за лакамабілі і паравыя малацілкі па 75 капеек з кожнага пуда. Вось, гэтымі днямі пададуць у Гас. Думу праект закона, па каторым маняцца ўсе сельскагаспадарскія машыны аблажыць высокім мытам. На лакамабілі і паравыя машыны маняцца налажыць мыта па 3 руб. 20 кап. з кожнага пуда, а на іншыя машыны, — па 1 руб. 50 капеек. Гэта затым, каб у нас земляробы не выпісывалі заграні́чных машын, а куплялі зробленыя ў Расеі.

Але ў Расеі, як падлічыла адна самая вялікая расейская фабрыка, зрабіць машыну каштуе шмат даражэй, як заграніцай.

Напрыклад зрабіць адну лакамабілю каштуе: у Расеі 2.368 руб., заграніцай 1.221 руб.

Калі б гэтакі закон прайшоў праз Гас. Думу, то зрабіў бы нямала шкоды сельскай гаспадарцы, бо цяпер у добра падрыхтаванай гаспадарцы ўжо без машыны не абыйдзешся, — значыць, машыну трэба купіць, а купляючы, пераплачваць у двайне толькі дзеля таго, каб падтрымаць расейскія фабрыкі і расейскіх фабрыкантаў коштам сельскіх гаспадароў. Пры такім палажэнні ў Расеі затрымалася б развіццё сельскай гаспадаркі, бо чым даражэй машыны, тым менш іх купляюць, а ці развіўся б краёвы промысел ад гэтай падмогі фабрыкантам яшчэ невядома.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 580. Nakład 7.700 I-2





*Замак у Міры. Графіка Язэпа Драздовіча. 1927 год.*




У сярэднявеччы, як мяркуюць вучоныя, уся беларуская зямля была густа ўсеяна гэтымі велічнымі збудаваннямі. Тады яны былі такой жа неабходнасцю, як хлеб, адзежа, хата. І па простай прычыне: хто хацеў захаваць жыццё ці не пайсці ў пастромках у няволю, той мусіў увесь час дбаць пра сховак ад нашэсця ворагаў. І раслі ў найбольш прыдатных для абароны месцах умацаванні, абаронныя вежы-стаўпы, крэпасці, замкі, прыстасаваныя да абароны храмы. Стаялі яны густа — праз попрышча адзін ад другога г.зн. у адлегласці 30-40 вёрст, колькі ў той час мог чалавек прайсці пешшу ці праехаць вярхом за адзін дзень. Узводзілі іх з самага даступнага матэрыялу — дрэва, умацоўвалі зямлёю, каменнем. На жаль, час і агонь аказаліся смяротнымі ворагамі майстэрства і працавітасці нашых продкаў. Пасля непрыступных і грозных сценаў і вежаў з вачніцамі байніц, адкуль зыркала на ворагаў смерць, засталіся толькі размытыя дажджамі і растручаныя карэннем насыпы і равы. Яшчэ назвы: Гарадзішча, Гарадчына, Градзіска, Стоўпнікі, Замчышча, Замковая Гара, Царковіска, Падцэрква і многа іншых. І кожнае з гэтых месц спавіта болей ці меней займальнай легендай пра магутнасць і красу гэтых гмахаў, што пераважна з-за злачынства, ілжы, здрады праваліліся пад зямлю. Але дзіву даешся, што няўлоўнае слова ды лятучая памяць людская аказаліся больш трывалымі, чым чэрствыя дубовыя бярвенні і смалістыя сасновыя камлі. Але не толькі слова...

Беларускі савецкі гісторык мастацтва М. А. Ткачоў у сваім альбоме-манаграфіі **„Замкі Беларусі“*)** з вялікай старанлівасцю даследаваў дайшоўшыя да нашых часоў гэтыя збудаванні ці іх рэшткі, археалагічныя раскопкі, запісы ў розных дакументальных крыніцах, даўнія планы, замалёўкі, карціны, фатаграфіі і на гэтых канкрэтных матэрыялах даказаў, што легенды выраслі з праўды, бо беларускія землі на самай справе былі калісьці праўдзівай „краінай замкаў“. У выданні знаходзім сціслыя, але грунтоўныя артыкулы, між іншым, пра велічны помнік раманскай архітэктуры з XIII стагоддзя, абарончую вежу, што ўзвышаецца яшчэ і сёння ў Камянцы, непадалёку паўднёва-ўсходняй ускраіны Белавежскай пушчы; пра замкі агульнадзяржаўнага прызначэння з часоў Вялікага княства Літоўскага ў Навагрудку, Гродне, Лідзе, Крэве; прыватныя магнацкія замкі-палацы ў Міры, Несвіжы, Любчы, Гальшанах і іншых мясцовасцях; пра ўмацаваныя храмы ў Полацку (славуты Сафійскі сабор), Сынковічах, Маламажэйкаве, Камаях, Асташыне, Смаргоні і г.д. З асаблівым задавальненнем адзначаем мы ў кнізе цікавы артыкул і багаты ілюстрацыйны матэрыял пра жамчужыну архітэктуры пачатку XVI ст. на абшары сённяшняй Беласточчыны — знішчаную ў таямнічых акалічнасцях у часе апошняй вайны — Благавешчанскую царкву ў Супраслі. „Царква вызначалася яснасцю і дакладнасцю архітэктурных чляненняў, кампактнасцю і суладдзем усіх аб’ёмаў, умелым спалучэннем канструкцыйных прынцыпаў з багатым дэкорам, што надавала будынку вялікую мастацкую сілу, — піша пра яе М. А. Ткачоў і дадае: — Супраслеўская царква, бясспрэчна, — адзін з выдатных помнікаў сярод інкастэляваных храмаў, дзе своеасаблівы стыль беларускай готыкі праявіўся найбольш поўна“.

У канцы кнігі памешчаны „Спіс помнікаў ваеннага дойлідства Беларусі IX-XVIII ст.“ — каштоўны для шырокага чытача даведнік у гэтай галіне. Варта заўважыць, што на Беласточчыне таксама захавалася многа (каля 50 аб’ектаў) рэштак помнікаў ваеннага будаўніцтва з тых жа часоў. Асабліва магутныя збудаванні ўзвышаліся ў Драгічы-

**(Працяг на стар. 5)**



*Фрагмент адкрытай рэстаўратарамі з-пад тынку сцяны ў царкве ў Заслаўі.*




**За 8 мільярдаў долараў ● Вароніч ● На адно пытанне адказваюць начальнікі з Кляшчэляў і Дубровы ● Акенца на Беларусь ● Паміранне ● Слёзы ● Другая ноч ● Чалавек лесу ● Нероны ● Весткі з Заблудава, Бельска, Белавежы, Гайнаўкі, Тафілаўцаў, Альхоўкі, Давідавіч ● Калі ў сне згарэла хата ● Кар’ера ● Песня „Через две зимы“.**




**Niedziela 6 IV** — 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Program dnia. 9.00 Lampa Alladyna — film fab. 10.10 Antena. 10.30 Jane Goodall wśród zwierząt — film dok. 11.20 Piórkiem i węglem. 11.45 Pięknis — film TV radz. 12.50 Bardzo śpiąca królewna. 13.35 Klub Sześciu Kontynentów. 14.20 Koncert życzeń. 15.00 Los. dużego lotka. 15.15 Zgadnij kim jestem? — Teletur. 16.00 Decydujący front — Nieznany żołnierz — film dok. TV radz. 16.55 Muzyka małego ekranu — cz. I. 17.25 Weź mnie ze sobą — kom. fr. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Cham — dramat obyczajowy pol. 21.40 Muzyka małego ekranu — cz. II. 22.25 My Fair Lady — kom. muz. USA. Wyst.: A. Hepburn, R. Harrison, S. Holloway i inni.

**Poniedziałek 7 IV** — 8.55 Program dnia. 9.00 Lancelot z jeziora — fr. film przyg. 11.20 Tryptyk himalajski — odc. III. 11.45 Piękniś cz. II — kom. radz. 12.45 Dlaczego lubimy koty: film z serii „Świat, który nie może zaginąć". 13.10 Teatr: Jan Brzechwa — Niezwykłe przygody pana „Kleksa". 15.10 Tele-echo. 16.10 Na estradach świata. Julie Andrews na Sezamkowej Ulicy. 17.25 Weź mnie ze sobą — fr. kom. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr TV: Lope de Vega — Dziewczyna z dzbanem. 21.25 Wiadomości sportowe. 21.40 Samuraj i kowboye — wł. film fab.

**Wtorek 8 IV** — 13.40 Pierścień księżnej Anny — pol. film fab. 15.20 Program dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Klinika zdrowego człowieka. 16.50 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.10 Studio Młodych. 17.35 Sonda. 18.10 Śląsk w Meksyku. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Skojarzenia — teletur. 19.30 Dziennik. 20.10 Szpital miejski — odc. pt. „Oczekiwanie" — film fab. TV ang. 21.05 Rozmowa z Ojczyzną — wiersze Juliana Tuwima. 21.55 Camerata. 22.20 Dziennik. 22.35 Forum krytyków.

**Środa 9 IV** — 11.05 Dla szkół: Fiz. kl. VIII. 12.00 Muz. kl. I. 12.45 TTR-RTSŚ — Mat. sem. IV. 13.25 Mech. rol. sem. IV. 14.00 W drodze do nowego. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Mat. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Skakanka. 16.55 Studio Młodych. 17.10 Czas i moda — film dok. 17.25 Dom i my. 17.40 Los. express i małego lotka. 17.50 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.15 Skarbiec. 18.50 Dobranoc. 19.00 Przyr. opow. Wł. Puchalskiego. 19.30 Dziennik. 20.10 Los człowieka — radz. film fab. 22.05 Puchary Europy w piłce nożnej. 23.05 Dziennik.

**Czwartek 10 IV** — 6.00 TTR-RTSŚ — Mat. sem. IV. 6.30 Mech. rol. sem. IV. 11.05 Dla szkół: J. pol., kl. VII — Stanisław Moniuszko. 12.00 Nauka o człowieku, kl. VIII.12.55 J. pol. kl. I lic. 13.25 TTR — Uprawa roślin, sem. II. 14.00 Mech. rol. sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Decyzje piętnastolatków. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek tel. dziewcząt i chłopców oraz film z serii „Złoto Huntera". 17.30 Studio Młodych. 17.45 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.10 Z eskulapem w herbie — rep. wojsk. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 Brygady Tygrysa — odc. pt. „Przeklęta wioska" — film fab. fr. 21.20 Lekarz radzi (o ciśnieniu tętniczym). 21.15 Pegaz. 22.00 W minutę po premierze. 22.35 Dziennik. 22.50 Śledztwo zostało wznowione.

**Piątek 11 IV** — 6.00 TTR — Uprawa roślin, sem. II. 6.30 Mech. rol. sem. II. 11.05 Dla szkół: Geogr. kl. VI. 12.45 TTR — Hod. zwierz. sem. IV. 13.25 Upr. rośl. sem. IV. 15.05 Red. szkol. zap. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Psycholog. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Kółko graniaste. 16.55 Studio Młodych. 17.10 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.30 Magazyn motor. 17.55 Czterdziestolatek odc. pt. „Pocztówka ze Spitsbergenu, czyli oczarowanie". 18.50 Dobranoc. 19.00 Pr. rozr. TV CSRS. 20.10 Młode lwy — ameryk. film fab. 22.55 Dziennik.

**Sobota 12 IV** — 6.00 TTR — Hod. zwierz. sem. IV. 6.30 Upr. rośl. sem. IV. 11.05 Dla szkół: kl. III — W fabryce włókienniczej. 12.00 Przysp. obr. kl. VIII i I lic. 12.45 RTSŚ — TTR — J. pol. sem. II. 13.25 Fiz. sem. II. 14.15 Program dnia. 14.20 Radzimy rolnikom. 14.30 Obiektyw. 14.50 Dziennik. 15.05 Radar. 15.20 Orbita. 15.50 Studio Młodych. 16.05 Test. 16.20 Gwiazdozbiór — Wittorio de Sica. 17.00 Liga piłki nożnej. 18.00 Szanujmy wspomnienia. 18.50 Dobranoc. 19.00 W świecie dzikich zwierzat — Tygrys. 19.30 Dziennik. 20.10 Pogoda dla bogaczy cz. II odc. II film fab. USA. 21.05 Spotkanie z gwiazda — Joe Dassin. 22.05 Dziennik. 22.20 Jak? 23.00 Klaudyna — film TV fr.




**Piątek 4 IV** — 7.35 Film fab. ser. 9.05 Koncert. 17.55 Film fab. ser. 19.35 Wieczór w Ostankino. 20.45 Pr. estrad.

**Sobota 5 IV** — 7.30 Film fab. ser. 12.45 Film fab. 15.00 W świecie zwierząt. 16.30 Filmy anim. 19.35 Nie do wiary.

**Niedziela 6 IV** — 8.05 Koncert. 13.00 Film fab. 15.00 Klub podróży. 17.00 Panorama międzynar. 17.45 Cyrk. 18.10 Spektakl.




**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Lipcowe spotkanie — czes. 6. Jabberwocky — ang. 8—9. Dzień weselny — USA 10—11. Panny z Wilka — pol. 12—13.
**Bielsk Podl.** Gwiazdy poranne — pol. 7. Afera Concorde — wł. 8—11. Pięć wieczorów — radz. 12—13.
**Czyże** Mistrz kierownicy ucieka — USA. Stawiam na trzynastkę — czes. 9—13.
**Gródek** Cenny depozyt — fr. 12—13.
**Hajnówka** Piętaszek i Robinson — ang. 8—9. Rewolwer „Python 357" — fr. 10—11. Lekcja martwego języka — pol. 12—13.
**Michałowo** Miłosna edukacja Walentego — fr. 8—9. Dupont Lajcie — fr. 10—11. Sto koni do stu brzegów — pol. 12—13.
**Mielnik** Długi weekend — hiszp. 9. Pasja — pol. 12—13.
**Milejczyce** Basen — bułg. Flic story — fr. 9—13.
**Narew** W cieniu legendy — węg. Amator — pol. 9—13.
**Narewka** Na cichej stacyjce — węg. Zabójstwo chińskiego maklera — USA 9—13.
**Nurzec** Tak szalona, że może zabić — fr. 8—9. Colargol i cudowna walizka — pol. 10—11. Znaków szczególnych brak — wł. 12—13.
**Orla** Skradziona kolekcja — pol. Szczęście jest tak blisko — rum. 9—13.
**Rajsk** Ifigenia — grc. Pięć wieczorów — radz. 9—13.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

* ✲ *

*перайсці*
*грызучую агонію ўспамінаў*
*выбяліць*
*копію пары сонца і пары дажджоў*
*змяшаць*
*да канца*
*ртуць з крывёй*

*праглынуць*
*пейзаж без слоў*

*усё*
*фата-маргана*

**Надзея Артымовіч**

## НАШ ПЕГАС

Вельмі добра, што Пегас
Паявіўся ўжо і ў нас —
Пасярод сялянскіх мас
(Яго цэніць Дзядзька Квас).
І не ў марах і не ў снах
Не раз зманіць смельчака,
Папаводзіць бедака,
Зжане сон, зжане спакой
Крылатая з'ява — конь.

✲

Ды народ смелы сялянскі,
Цвёрды ззаду, як крамух.
На кані праехаць панскім
Хоча, што там ні кажы,
Абы злапаць павады,
Што завуць усе натхненнем,
Тады мора па калені.

✲

Пегаса агністы зоў
Пачулі з усіх бакоў.
Хто машынай, а хто пеша.
Напрасткі й дарогай чэша.
Ўжо гадаюць многа год,
Скочыў ўбок ён ці ўпярод.
З лабоў часам валіць пара.
Выпілі ўжо вёдры кавы,
Накурылі цэлы хмары.
Дык Пегас уцёк з Варшавы,
Ён мінуў і Беласток...
Дзе ж ён ёсць?
Ён прэ ў народ!
Дзе свет дошкамі забіты —
Лектарамі пазабыты.

✲

Раз вось гэты дзіва-конь
Запер аж да Рыбакоў.
З Нарвы хоча піць ваду.
Хлябіч на яго вузду.
Хацеў, як на рыбу вуду
(Каб потым дзівіцца цуду).
Але, дзе там, з перапуду
Фёдар зірк на Стары Двор.
Конь ужо ля Бандароў.
Насця Грыка лён палола.
Да каня: кось, кось, з прыполам.
Але лён не канюшына,
Конь махнуў толькі крыламі
(Дзядзька кажа, што хвастом):
„Баню вы будуйце самі!"
Стукнуў аб жвір капытамі,
Іскры сыпнулі аж страх,
Спыніўся ў Ціванюках,
Дзе бярозкі тры пахілы
Плачуць над хаткай-магілай.
„Зараслі даўно травою
Тыя сцежкі і дарожкі..."
Словы крануць за жывое.
Прыпыніўся Пегас трошкі.
Дык пачуў ягоны стук
Чуллівы Аркадзь Леўшук.
Конь пачаў скубсці мурог,
Потым ціхенька заржаў,
Знік у багне Імшара
(Абы толькі не прапаў).
Наш Пегас, крылаты конь,
Вабіць смелых ездакоў.

А вартуе наш Парнас
Паважаны Дзядзька Квас.

**Валодзя Гайдук**





**В. Петручук — пенсіянер. Жыве ў Беластоку. Актыўна дзейнічае ў ЗБоВіД.**

# Васіль Петручук

* ✲ *

Пасынак — яблынька — яблыкі. Даспелае яблыка ўпала, лісце з яблыні асыпалася, сама высахла і зрубалі яе, астаўся пянёк. Пянёк выкарчавалі, зраўнялі, пасеялі траву. Быццам трава больш значыць, чым значыла яблыня.

* ✲ *

Ложак
          дзіцё
                    чалавек
                              староце
                                        труп
                                                  зямля.

* ✲ *

Вёска, людзі, праца, жыццё.
Катаклізм, смерць — і па жыцці.

### КАНЕЦ СВЕТУ

Канец свету існуе безупынна: сёння памёр ён — яму канец свету, заўтра памрэ іншы, і яму ўсё канчаецца, паслязаўтра ты — табе свет кончыцца. І так было ўжо мільёны год, і так будзе вечна, хіба што разумакі зробяць усё за адным замахам. Тады не астанецца нічога жывога, хоць шаром пакаці, адны дамы будуць стаяць з пустымі вокнамі, пакуль не рассыплюцца са старасці, ды не заскрыгочуць цагляна-жалезнымі зубамі са злосці на генія чалавечага, які будаваў, а пасля нібы п'яны дурань усё правaліў у бездань.

* ✲ *

Вясна!!! Лета!! Восень! Зіма — кропка, капцы, амін.

### ЧАМУ?

Народы праследуюць хваробы, голад, пасухі, паводкі, цыклоны, землетрасенні. Хопіць бяды! Чаму яшчэ вы, ад імя нібыта народаў пужаеце нас смерцяносная зброяй, чаму?! За што?!!!

Перастаньце труціць атмасферу дымам збраевых фабрык. Вярніце народам чыстае неба, сонца вясёлае, спакойную будучыню і хлеб. Вы ж разумныя людзі. Ці разумны чалавек будзе страшыць другога чалавека смерцю? Разумны чалавек другога чалавека ўгосціць хлебам і вадою, дружалюбна пагаворыць ды дарогу пакажа... „ідзі, не блудзі" — скажа.

### МУХАМЕДУ АЛІ

Алі, ты слаўны баксёр, ты слаўны чалавек. Лётаеш казённым самалётам па Чорнай Афрыцы, збіраеш галасы супраць Алімпіяды, збіраеш сорам на сваю славу. Чаму ты даўся, каб вадзілі цябе на павадку? Злётай да в'етнамцаў, скажы ім, што гэта іх самалёты кідалі шарыкавыя бомбы на Н'ю-Йорк. Ну, ты ж верыш амерыканскім правадырам, ляці. Скажы, што гэта в'етнамскі напалм паліў амерыканскую зямлю.

У цябе сям'я, дзеці. Падумай, чым горшыя чужыя дзеці ад тваіх? Падумай, што ёсць людзі, якія могуць забіць, зарэзаць і спаліць кожнага. Адвярніся ад гэтых людзей. Астанься ў лаўры слаўнага спартсмена.

9.II.1980



# ПА-СВОЙМУ ↓ І ГЛЫБОКА

Ужо тое, што **Ірына Баравік** свой першы зборнік вершаў назвала **„Супраць ветру*"**, адкрыла яго словамі „Зайграў вецер..." і закончыла радком „Усё разам — жарты, а я — вецер", прыцягвае ўвагу чытача, падае знак: хоць гэта і паэтычны дэбют, але зусім не дэбютанцкі спосаб выказвання. А калі заглыбіцца ў гэтую — усяго ў два аркушы — кніжачку, то аказваецца, што з яе можна вылушчыць важкія зярняты.

Паэзія Баравік грунтуецца на пранікнёных назіраннях жыцця і чалавечых перажыванняў ды нечаканых іх супастаўленнях і сутыкненнях. З гэтых паядынкаў вобразаў і адчуванняў явіцца цікавы паэтычны свет, узгадаваны ў марах і выпешчаны пачуццямі. Ён такі далікатны і крохкі, як той бухматы шарык-адуванчык на поплаве ў пагодны чэрвеньскі поўдзень, што паэтэса „знайшла яго (але трымаць у руках чаго) не мела" („Гэта было..."). Аднак гэта зусім не знеахвочвае яе будаваць уласную краіну візій. Паўстае гмах ажурны, але нетрывалы, ён раз-пораз рассыпаецца пад ударамі звычайнай штодзённасці. Наперакор усяму паэтэса не апускае рук, не заракаецца, карпатліва і заядла выграбае з руін абломкі сваіх ранейшых мараў і зноў узводзіць замак ілюзій, яшчэ пышнейшы ад папярэдніх. З лёгкасцю і грацыяй сабе толькі ўласцівай яна патрапіць са звычайнага зямнога існавання пераходзіць „на той бок рэчаіснасці", заціраць рубеж паміж быццём і небыццём, з'яднаць „далёкае ўчарашняе" з касмічна адлеглым будучым і аснове ўсяго стварыць цалкам выключны стан — бязмежную беззваротнасць.

З гэтага стану ці пункту гледжання паэтэсы бачым мы яе родную вёску, што „называецца надта ж прыгожа — Мора, гэта на нашай Беласточчыне", дзе „Косы воблакаў /дастойна плылі/Праз карону неба /Ва ўрачыстай цішы..." („Хвілінка"), дзе салавей „сваім спевам/серабрыстым/усё/перадаў/і шум лясоў/і спёку поля) і смех дзіцяці..." („Спеў салаўя"), дзе „каса заблішчыць у жыце каласістым..." („Будзе жніво"), і дзе „у маміных валасах/першае серабро/паклаліся гады на галаву/бабіным летам/гэта ўжо восень..." („У маміных валасах...") — словам, тое найдаражэйшае, што кожны з нас носіць у сэрцы ўсё жыццё. І не толькі носіць, прызнаймася, глядзіць на гэты казачны свет свайго дзяцінства і юнацтва — цудоўную беззваротную нерэальнасць — такімі ж самымі закаханымі вачыма.

І зусім заканамерна, што ў гэтай паэзіі каханне атрымоўвае асаблівую інтэрпрэтацыю. Пераважна, быццам у стараіндыйскіх паэмах, кожнае асобнае слова мае тут глыбокі сэнс, з'яўляецца сімвалам, служыць шыфрам гэтага стваpаючага і разбураючага пачуцця. Усе гэтыя „лёгкія губы", „цёплы куточак на шыі", „дрыжачыя цені рук" — толькі намёк на вялікі вобраз, далікатны дотык да струн, што гатовы нараджаць цэлыя сімфоніі. А якімі акордамі гучыць гэтая „Ars amandi" можна пераканацца хоць бы на такіх метафарах: „я іду ў тваё шчасце", „твае позаркі/як дарагія сэрцу каралікі/наніжу на нітку/як каштоўныя камені...", „радасць астаецца/з апошнім пацалункам/на тваіх губах...". Хоць вершаў, прысвечаных выключна каханню, у Баравік усяго некалькі, але гэтае пачуццё як шляхетны флюід атуляе большасць твораў зборніка, надае ім якраз тую важнасць, што пасля яе „ад суму сэрца гнецца".

Вядома, не можа быць лірыкі без суму. І ў вершах Баравік ён зайграў усімі магчымымі і немагчымымі барвамі ад глыбокага песімізму і бязвер'я — „усё гэта Бессэнсоўнасць", развагання і смакавання — „час шкадавання/час ўспамінання", раскошнага сумавання — „кожным кусочкам цела" да шалёнай радасці, калі „ляцеўшы зорным шляхам/так цяжка ўбачыць мурашку".

Так, іменна — мурашку. Бо Баравік, хоць і не прызнае розніцы паміж светам макра і светам мікра, але саму сябе лічыць звычайнай істотай, „маленькай крышынкай", бездапаможнай, цалкам залежнай ад выпадку, як кожны з нас. Яна не мае ахвоты нават узлазіць на штучныя хадулі самазванага прарока і выбаўцы чалавецтва, бо „неба так высока /плюнь на неба...". У слове аб сабе яна піша: „маё пісанне — гэта нараканне на свет, а дакладней — асуджэнне яго" і далей шчыра прызнаецца: „я не ведаю, што маю зрабіць, каб ён быў лепшы". Яе пратэст, крык душы зусім не намагаецца быць падобным да ерыхонскіх труб, ён толькі падкрэслівае марнасць чалавечай істоты „крык/здаецца такі/магутны/разрывае грудзі/з сілай такой/што чуваць/яго ўсюды павінна/аказаўся ціхім/маленькім/сіл яму не хапае/не перастуціць/няпраўды...." А ў іншым месцы без горычы і расчаравання сцвярджае — „Жыццё/гэта праміннанне", яно быццам „дым уцякае праз пальцы" і глохне ў

(Працяг на стар. 5)

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# ПЛЮНЬ І РАЗАТРЫ...

Артыкул Франціішка Берніковіча „Бацькі і дзеці“ цікавы, хаця ў ім пра вельмі нецікавыя справы, а правільней пра вельмі нецікавых людзей з нашага асяроддзя. Ёсць такія людзі, некалькіх я асабіста знаю, і найбольш, канешне, сярод „інтэлігентаў“. I не дзіва, што так злосна разразіўся на іх Ф. Берніковіч, і грыміць на іх святым гневам Дзядзька Квас (каб ён быў яшчэ мацней скіс). Хаця я не прыхільнік такой заядлай сваркі, як гэта робіць Дзядзька Квас, але канкрэтна да гэтай праблемы яна якраз пасуе. Бо падумайце, ці ж можна спакойна прайсці каля такой дурноты, што бацькі дзецям, або дзеці бацькам забараняюць гаварыць на роднай мове, мове сваіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў... Мне здаецца, што ўсё ж такі кожная дурнота павінна мець пэўныя граніцы, а тут гэтыя граніцы пераскочаны. Я знаю сямейку, дзе бацькі крычаць, а нават б’юць свайго малыша, калі той загаворыць па-свойму. Калі, напрыклад, хлопчык, прыбегшы з вуліцы, крыкне: „Мамо, дайтэ істы!“, то атрымае не „істы“ а „підсрачніка“ (хаця і назавуць яго „клёпсом“), бо трэба сказаць: „Мамо, дай ясць“. Так старанна татка і мамка рыхтуюць сыночка да будучай кар’еры. На якой канкрэтна мове яны і ім падобныя гавораць, сказаць цяжка, бо яны гавораць не на адной, а на некалькіх мовах адразу. Ім вельмі часта здараюцца такія казусы, як: „Пэндзіў, злапаў за кашулю і парваў сарочку“. Бо іншых моў, апрача сваёй роднай, не толькі бацькі, але даволі часта і іх вучонае чада добра не ведаюць.

Калі бацькі паступаюць з дзецьмі так, як мае знаёмыя з хлопчыкам, які папрасіў маму „істы“, то нічога дзіўнага, што потым гэтыя дзеці паступаюць таксама са сваімі бацькамі. Напэўна пашаны ў дзяцей такія бацькі мець ніколі не будуць, і так ім і трэба. Проста маем дачыненне са звычайнай дурнотай. Але бывае і так, што бацькі зусім не вінаваты: аддалі сваім дзецям усё найлепшае, найчысцейшае, найдаражэйшае, а гэтыя дзеці, стаўшы дарослымі, „вучонымі“, пачалі саромецца і цурацца ўсяго роднага. Гэта, браткі, ужо подласць, з якой вылечыць немагчыма, зрэшты, і лячыць не варта — страта гэта якасна недарагая. Можа я тут не зусім дакладна выразіўся, гаворачы пра адцуранне ад усяго роднага. Бо вельмі дзіўная рэч, не любячы духоўнага багацця сваіх продкаў: роднай мовы, роднай традыцыі, роднай культуры, — яны страшэнную сімпатыю маюць да матэрыяльных вартасцей, створаных іх „некультурнай“ сям’ёй і „прымітыўнымі“ продкамі. Такі „інтэлігент“ ахвотна павалачэ з дому ўсё: яйкі, сала, мяса, яшчэ дзедаўскі самавар і кажушок (яны ж модныя цяпер і прадстаўляюць немалую матэрыяльную вартасць), карову, гектары. Не пасмеюць адмовіць яму бацькі і, бадай, у найдаражэйшай сямейнай рэліквіі — старэнькай запыленай іконе, перад суровым, але справядлівым воблікам якой адбываліся ўсе важнейшыя падзеі іх продкаў. Толькі не падумайце часам, што ікона яму дарагая менавіта па гэтаму поваду. Дарагая яму ікона менавіта таму, што за яе заплацяць долары і не малыя, а чаго, скажыце, такія не зробяць за цвёрдую валюту, калі яны і бясплатна нямала робяць...

Пацяшальным з’яўляецца хаця тое, што наша мова, якой яны цураюцца і пагарджаюць, не астаецца перад імі ў даўгу: яна выпрацавала багацейшы слоўнік для акрэслення такіх тыпаў. Вось, напрыклад, некаторыя з іх: „адшчапенцы“, „слюнцяі“, прабачце за грубасць, „засранцы“ і г.д. Хацеў бы закончыць гутарку аб такіх пагаворкай, якая мне помніцца яшчэ з дзяцінства: „Раз, два, тры — плюнь і разатры“.

**Пiлiп Саскі**

## З маей званіцы

# „АШЧАДНАСЦЬ“

Рамонт пачалі ад замалявання вокан. Адзін з працаўнікоў густа наклаў на шыбіны белую фарбу, з якой зараз не вельмі лёгка. Другі, а можа і той самы, вялікімі літарамі напісаў РАМОНТ ды намаляваў нейкую ляльку. Значыць, вітрына падрыхтаваная. Усім ясна — тут ідзе аднаўленне. Праходзіць тыдзень, другі, мінае месяц. У будынку быццам бы нешта робіцца. Час ад часу ўвойдзе нехта з вядром, унясуць нейкую дошку, на шыбінах прыбудзе новай графікі, подпісаў. I праз нейкі час выйдуць усе на вуліцу. Стануць перад замаляванымі вокнамі, паўглядаюцца, пакруцяць плячыма.

— Многа роботы. Ого, пакуль гэта ўсё памыць... Колькі гэта часу трэба? А ці так добра вымыеш? — ідуць разважанні.

I раптам, нібы прыліў новай мудрасці, усплыве думка, якая развяжа ўсе клопаты. Супраціўленняў няма. Усе згодныя. I нехта, прынёсшы шуфлю, бразь у шыбіну. Шкло паслухмяна пасыпалася. Адно акно „вымылі“. Дзірку хутка залаталі. Нідзе і следу па фарбе. Так, прыкладна, мылі пятнаццатага сакавіка бягучага года частку шыб па вуліцы Весялоўскага 4 у Беластоку, дзе праводзілі рамонт крамы. Ашчаднасць... Толькі чаго — шкла ці часу рамонтнікаў? А можа гэта адзін з відаў аблягчэння мыцця вокнаў? Бо ж плацяць ім за поўны рамонт.

Адно толькі здзіўляе — што за таямніца ў рамонтнікаў, што так яны скрываюць? Ну хіба ж таямніца? Калі б было інакш, чаго ж тады замалёўваць шыбіны і скрывацца ад людзей? Напісалі б на вялікім аркушы паперы, што рамонт, і ўсім было б ясна. Відаць, маюць сваю нейкую рэцэптуру. Бо ці ж вы бачылі, каб гаспадар, аднаўляючы сваю ўласную хату, выбіваў вокны?!

**Бізун**

(Працяг са стар. 1)

# Васіль ВАЎРЭНЮК

Апрача таго, сам зрабіў ён крайзэгу, габлярку. I пачаў нават спецыялізавацца ў вырабе крайзэг, якіх зрабіў не менш сарака. Пасля вырабляў млынкі, якія ахвотна куплялі гаспадары, бо якасць працы іх была высокая. Цікава пабываць у майстэрні Васіля Ваўрэнюка. Чаго там толькі няма! Чалавеку, мала азнаёмленаму з машынамі, майстэрня яго можа паказацца нейкім складам машын. Бо ёсць і спаварка, і такарка, і шліферка, і механічная пілка, і кавальскае гарно, і мноства прылад і ключоў, якія дапамагаюць яму ва ўсяго роду рамонтах.

— Найбольш цяпер займаюся перараблянием вазоў-балонаў, дапасоўваю іх да трактараў. Другою дзялянкаю майго рамяства з’яўляецца выраб кабінаў да трактараў „Уладзімірац“, а таксама спранжыновак, — расказвае мне гэты самародны сялянскі тэхнік, самавук. — Стараюся цяпер менш працаваць, — працягвае ён. — Здароўя не хапае, крыж наверадзіў, дык ён мне часта дакучае. Але мушу рабіць. Ад людзей не абаніцца! Кожны просіць, тое ці другое зрабі.

Васіль Ваўрэнюк апрача рамесных работ увесь час займаецца сельскагаспадарчымі працамі і залічаецца да добрых гаспадароў у сваёй вёсцы. У яго 9 штук рагатай жывёлы, у тым ліку 4 дойныя каровы, 5 свіней і 2 вархлякі, а таксама мацёра з 8 парасятамі. Мае ён амаль усе сельскагаспадарчыя машыны ўключна з уласнай малацілкай і трактарам. Нажыў таксама легкавую машыну „шкоду“. Дакупіў ён 2 га зямлі і мае яе цяпер 9 га.

Васіль Ваўрэнюк са сваёй жонкай Верай пагадаваў ужо дзяцей. Дачка яго Маня, якой 17 год, вучыцца ў Бельску ў сельскагаспадарчым тэхнікуме, а сын Вася ад восені служыць у войску. Сын удаўся ў бацьку. Любіць ён тэхнічныя работы. Але ён ужо не самавук. Бацькі дапамогуць яму стаць спецыялістам высокага класа.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



# „Беларуская песня — 80“

16 сакавіка 1980 г. у Бельскім доме культуры адбыліся мясцовыя элімінацыі да традыцыйнага ўжо конкурсу „Беларуская песня“.

Ужо з раніцы прасторныя залы Бельскага дома культуры запоўніліся самадзейнікамі. Задоўга да 11 гадзіны, г.зн. да адкрыцця элімінацый, усе спевакі праводзілі рэпетыцыі. Усюды атмасфера працавітасці і вялікай ахвоты ўсіх выступаючых, каб як найлепш выканаць выбраныя песні.

I вось пачатак. Канцэрт адкрывае жаночая група з Аўгустова, затым выступае мужчынскі квартэт, таксама аўгустоўцы. Калектыў малады, але смела змагаецца ў вялікай канкурэнцыі. А, несумненна, канкурэнтам быў вядомы бельскі хор „Васілёчкі“, які нядаўна святкаваў юбілей — 15-годдзе сваёй дзейнасці. Калектыў „Васілёчкі“ дасканала падрыхтаваўся да гэтага канцэрта. Ён цудоўна выканаў пад кіраўніцтвам дырыжора мгр Сяргея Лукашука такія прыгожыя песні, як „Беласточчына“, „Што ты мне сэрца параніў“ (трохгалосная песня) і інш.

„Васілёчкі“ паказалі вельмі высокі мастацкі ўзровень — вялікія вакальныя магчымасці, цікавую інтэрпрэтацыю. Тое ж самае можна сказаць і пра саліста бельскага хору Юрку Гаўрылюка. Народнымі песнямі „Як павезлі мяне сватаць“, „Жаніўся стары на маладзенькай“ ён запаланіў слухачоў. Прыгожы голас, вялікая сцэнічная культура.

Добрае ўражанне выклікалі і іншыя самадзейнікі. „Згодныя макі“ з Райска з інсцэніроўкай народнай песні, „Дзявочыя ноткі“ з Бельска з маладымі, свежымі галасамі. Цікавыя выступленні такіх салістаў, як Юркі Харкевіча, Галіны Кавальчук, Аліны Бурыла.

У ацэнцы камісіі бесканкурэнцыйнымі аказаліся „Васілёчкі“ і яго салісты. У катэгорыі фальклорнай песні першае месца (як калектыў) заваяваў хор „Васілёчкі“. У катэгорыі салістаў — Юрка Гаўрылюк. У катэгорыі сучаснай песні першае месца, спецыяльна адзначанае — калектыў „Васілёчкі“, саліст — Юрка Харкевіч. Першае месца ў гэтай катэгорыі заваявалі таксама „Дзявочыя ноткі“ з Бельска.

Трэба яшчэ падкрэсліць добрую арганізацыю бельскіх элімінацый. Канцэрт выклікаў непаўторныя ўражанні сярод любіцеляў беларускай песні.

**Н. Артымовіч**

(Працяг са стар. 1)

# ПРЫЕМНАЕ СПАТКАННЕ

ды і розніца ва ўзроўні выканання таксама значная. У адрозненне ад папярэдніх двух-трох год, цяпер не кідаліся ў вочы спробы наследавання А. Пугачовай, М. Магамаеву ці іншым славутым савецкім спевакам, затое можна было заўважыць удалыя пошукі твораў менш вядомых, але таксама цікавых сваім зместам і мелодыямі. На канцэрце можна было пачуць песні з розных эпох. Выконваліся даўнія рускія народныя — вясельная, рэкруцкая, карагодная, частушкі. Спяваліся „сэрцашчыпальныя“ рамансы з пераломy XIX і XX стагоддзяў, выконваліся разнастайныя лірычныя даваенныя і пасляваенныя творы савецкіх кампазітараў. Было шэраг песень пра трагічныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны: пранікнутая трагізмам пра вяртанне франтавіка на папялішчы роднай хаты і магілу найбліжэйшага яму чалавека, пра тое, як ён, акалечаны і змардаваны, „хотел выпить за здоровье, а пришлось — за упокой“, не меней балючая — „Імёны“, пра тых, што спачываюць у магілах „невядомага салдата“, і глыбокая „Дзень перамогі“ — заваяваны жыццём і пакутамі соцень мільёнаў. На іх фоне асабліва жыццерадасна ззялі сучасныя песні пра будаўніцтва Байкальска-амурскай магістралі і пра прывольныя канікулы. I надта шкада, што выконваліся толькі рускія або рускія савецкія песні, і не было твора з Беларусі, Украіны, Малдавіі, Латвіі і іншых савецкіх рэспублік, прыемным выключэннем была адна-адзіная літоўская песня. Адчуваўся недахоп лёгкіх жартоўных песень.

Выступалі толькі адны аматары, таму цяжка было вымагаць, каб канцэрт меў роўны выканаўчы ўзровень. Здараліся выступленні і надта слабенькія, бездапаможныя, калі ў спевакоў ад хвалявання засыхала ў горле і гінуў голас. Часам нельга было пазнаць, ці песня пяецца на рускай, польскай ці іншай нейкай невядомай мове. Але былі таксама і дасканалыя прадукцыі, якім нават спевакі-прафесіяналы маглі б пазайздросціць галасавога багацця і ўмення інтэрпрэтацыі. Мяне асабіста захапіў некалькіасабовы, нядаўна паўстаўшы калектыў Беластоцкага дома культуры будаўнікоў. Магутнейшы вакал і надзвычай тонкае адчуванне асаблівасцей рускага меласу! У іх стылі відаць жыватворны ўплыў мінскіх „Песняроў“ і іхняй паглыбленай інтэрпрэтацыі народных мелодый. Не дзіва, што спевакам-будаўнікам на ваяводскіх элімінацыях прызналі першае месца ў катэгорыі калектываў і накіравалі ў Інавроцлаў на занальныя элімінацыі. Вельмі цікавае і на высокім узроўні былі выступленні калектываў з Бельскага дома культуры (II месца) і „Прыгода“ з Бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя імя Т. Касцюшкі (IV месца) — трапная інтэрпрэтацыя, умелае валоданне голасам, абодвума калектывамі кіруе здольны і амбітны дырыжор Л. Кудзін, пра яго ўдалыя здзяйсненні мы, напэўна, яшчэ не раз пачуем. Беластаччан цешыць нараджэнне моцнага і з высокай выканаўчай культурай калектыву ў Студыі дашкольнага выхавання (III месца). Вядомыя нам сімпатычныя „Дубочкі“ з Дубяжына (V месца) паказалі сябе вельмі карысна, здабылі вялікую прыхільнасць залы, якая ім доўга апладыравала, дамагалася паўтарэння выступлення. Але хлопцам, відаць, не хапіла духу — на біс не заспявалі. Шкада. Сярод салістаў поўнасцю дамінавала студэнцкая і ліцэйская моладзь. Гэта цешыць, бо прарочыць конкурсу добрую будучыню. Вылучаліся сярод іх дзве пары: вучаніца III агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку К. Зенька са сваім братам акампаніятарам-гітарыстам. (I месца) і



ФОТА ПА ЗАКАЗУ **Klari Katona**



## ФАЛЬКЛОР



### ВЯСЕЛЬНАЯ




*Ой, шчэ й грэчка нэ зышла, говорат — чэрная,*
*я ў свікрухі нэ жыла, говорат — ліхая!*
*Трай-ляй, а-ля-ляй, а-ля-а-ля-ля!*
*Я ў свікрухі нэ жыла, говорат — ліхая!*
*Хоть ліхая — чіліхая, мушу догоджаті,*
*научу свою свікруху ў рэшэті гуляті!*
*Трай-ляй, а-ля-ляй, а-ля-а-ля-ля!*
*Научу свою свікруху ў рэшэті гуляті!*
*— Гуляй, гуляй, стара маті, хоч на одным міесті,*
*тэпэр знай — догоджай молодуй нівіестці!*
*Трай-ляй, а-ля-ляй, а-ля-а-ля-ля!*
*Тэпэр знай — догоджай молодуй нівіестці!*

Ад Мар'і Шышко, 1934 года нараджэння, вёска Вілінава гм. Мельнік, запісаў у лістападзе 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфраваў Ян Бондар.

## Куток практычных ведаў




### ПАРУ СЛОЎ ПРА НЕМАЎЛЯТ

Калі ў 60 гадах увага псіхолагаў асабліва была сканцэнтравана на падрастаючай моладзі, у 70 гадах — на сярэднім узросце, то 80-ыя гады прынеслі чарговую змену: у цэнтры ўвагі стаяць немаўляты.

Калісьці лічылі, што свет малога дзіцяці напоўнены бязладнай мешанінай гукаў, запахаў і форм, што, прыглядаючыся да асяроддзя, дзіця атрымлівала пэўныя веды метадам проб і памылак, а бацькі маглі толькі наглядаць гэты працэс, не маючы магчымасці дырыжыраваць сімфоніяй імпульсаў свайго дзіцяці.

Сённяшнія доследы даказваюць, што нават новانароджаны, які пражыў на свеце ўсяго пару гадзін, у нічым не напамінае „незапісанай табліцы" даўнейшых псіхолагаў.

Нованароджаны **бачыць.** Ад таго моманту, калі ўпершыню адкрые вочы, прыглядаецца да людскіх твараў, асабліва да вачэй.

Нованароджаны **чуе.** Ад хвіліны нараджэння дзіця чуе людскія галасы і адрознівае іх, выбірае іх з усіх іншых гукаў уключна з гукамі музыкі.

Нованароджаны **каардынуе** свае рухі, хаця не ўмее яшчэ хадзіць, сядзець і трымаць галоўку. Напрыклад, каардынацыя вачэй і рук выступае, калі дзіця, убачыўшы нейкі прадмет, хоча злавіць яго ручкамі.

Нованароджаны мае пачуццё **смаку.** Прыходзіць ён на свет, маючы асаблівую ахвоту на салодкія рэчы і не любячы салоную і кіслую страву. Магчыма, маем тут дачыненне з нейкай больш глыбокай прычынай генетычнага паходжання?.. Ягады і зёлкі салодкага смаку падыходзяць жа наогул для яды, расліны ж горкага смаку найчасцей бываюць ядавітыя. Магчыма, гэты просты факт, такі істотны для нашых продкаў, закадаваны і сёння ў нашых генах.

**Эскулап**




Дарагое Сэрцайка, не ў сваёй справе пішу я да цябе, датычыць яна дзяўчыны, якая жыве ў мяне на кватэры. Яна ў гэтым годзе робіць матуру. Дзяўчына добрая, добра вучыцца. Пару тыдняў назад прыйшла яна з хлопцам. Хлопец гэты працуе, пасля абеда свабодны. І цяпер, як яна толькі са школы вернецца, ён і тут. Позн ім вечарам яна пачынае рыхтаваць урокі і сядзіць да позняй ночы. Рана ўстае нявыспаная, змучаная і ідзе ў школу. Аднойчы маці прыехала і, паглядзеўшы на яе, спытала ў мяне, што здарылася, што Аня нейкая змучаная, мізэрная. Я не сказала ёй праўды, каб не нервавалася. Паехала маці, а я непакоюся, ці добра зрабіла, што ёй не сказала. І на сэрцы неспакойна. Цяпер жа ў школе найбольш работы, і гэта каханне ў такі час можа ёй зашкодзіць. І хачу параіцца ў цябе, Сэрцайка, ці ўмешвацца мне ў гэтую справу, ці не?

Кацярына

**Кацярына!** Гэта добра, што ты цікавішся сваёй маладой кватаранткай. Варта далікатна пагаварыць з ёю. У такі гарачы для матурыстаў час кожная хвіліна дарагая. Можна і хлопцу сказаць. Для дабра сваёй дзяўчыны можа ён, пакуль яна школу закончыць, радзей будзе яе наведваць. Нельга іх тут абвінавачваць за тое каханне не ў пару, бо каханню часу не вызначыш.

**Сэрцайка**

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: А. быў арыштаваны. Праз тры месяцы пасля гэтага прадпрыемства звольніла яго з працы, а за гэтыя тры месяцы выплаціла палову належнай зарплаты. Праз два месяцы адбыўся суд, які апраўдаў А. А. зараз жа з'явіўся на прадпрыемстве, якое прыняло яго на работу і выплаціла яму другую палову зарплаты. Ці належыцца яму зарплата за два месяцы, калі ён не працаваў без сваёй віны? Ці залічаць гэтыя месяцы да стажу працы і ці будзе гэта мець уплыў на права на водпуск?

АДКАЗ: Паводле кодэксу працы пасля трох месяцаў побыту ў арышце ўмова працы канчаецца на аснове самога закону. За час гэтых трох месяцаў выплачваецца палова належнай зарплаты, а калі абвінавачаны будзе апраўданы, то належыцца яму другая палова. За далейшыя месяцы зарплата не належыцца, хоць бы абвінавачаны быў апраўданы. Час гэты не ўлічваецца да перыяду часу працы. Калі працаўнік пасля таго, калі прыгавор суда, якім ён апраўданы, увойдзе ў законную сілу, на працягу сямі дзён з'явіцца на працу, прадпрыемства абавязана яго прыняць. На права на водпуск арышт не будзе мець уплыву, г. зн. калі працаўніку прыслугоўваў бы водпуск за даны год, то атрымае ён водпуск так, як бы цэлы час працаваў, а калі б прыслугоўваў яму нявыкарыстаны ў мінулым годзе водпуск, то прадпрыемства абавязана даць яму і гэты водпуск. Час арышту ўлічваецца таксама да перыяду працы.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, прысніўся мне такі нядобры сон перад днём восьмага сакавіка, што я з мамай каля хлява з вялікай кучы гною выкідала вужоў. Яны былі карычневага колеру, малыя і вялікія. А за той кучай стаяў яшчэ адзін чалавек, толькі не ведаю, хто (я цяпер жыву далёка ад мамы ў горадзе, там вучуся). Вельмі прашу цябе адгадаць мой сон.

Аля

Астроне! Будзь добры, разгадай мой страшны сон. Сніцца мне, што мая мама памерла і ляжыць у труне. А я стаю каля яе і думаю, каб яна хаця не ўстала, а то вялікі страх будзе. Аж гляджу, а мая мама ўстае, такі мяне страх агарнуў, што я прачнулася ўся мокрая. Мая мама жыве ў мяне.

Маня з Белавежы

Аля, ты далёка ад мамы, і, відаць, цяжка табе адной. Нейкія няшчырыя сябры, бадай, падложаць табе свінню. Аб гэтым сведчыць куча гною, у якой былі вужы.

Маня, напэўна сон не надта добры. У паветры вісіць для цябе нейкая небяспека. Ты, напэўна, перапужалася, што мама можа памерці сапраўды, але тут не ў гэтым справа. Шукай небяспекі дзесь у іншым месцы.

**Астрон**

(Працяг са стар. 5.)




— То хіба гэты, што і цяпер стаіць там у лесе ля дарогі, што ідзе на хутар да Шума, — заўважыў сын Млынарчукоў.

— Усе яны яшчэ стаяць, — адказаў бацька. — Толькі разбітыя.

— І, мусіць, век цэлы стаяць будуць, — дакінула маці, — але не перарывайце, — папрасіла яна. — Чытайце, як было далей.

*„Усе разбегліся па сваіх месцах* — пісаў Плаксей, — *а я астаўся адзін, бо трэба вам ведаць, што мяне назначылі ротным кухарам і я не быў прыдзелены да ніякага дота, не ўваходзіў у ніякі састаў дотнага разліку..."*

Паявіўся нейкі камандзір. Пятро Плаксей запытаў яго, што яму рабіць. У адказ пачуў:

— Вары абеды, сцеражы кухню і гарадок!

Лёгка сказаць, але выканаць... Адзін... калі сэрца дрыжыць ад хвалявання, калі здаецца, што з-за кожнага карча, ахутанага яшчэ цёмнашэрай імглою ночы, вось-вось выхіліцца варожая морда ў глыбокай касцы. То ж граніца ўсяго кіламетр ці два адсюль...

— У мяне ледзь адна вінтоўка! — сказаў повар Плаксей. Камандзір не меў часу на спрэчкі. Ужо на бягу крыкнуў:

— Зараз будзе кулямёт!

І сапраўды неўзабаве, праз нейкіх 15 хвілін, падкінулі Пятру Плаксею кулямёт, чатыры дыскі патронаў і дзве скрыначкі гранат „лімонак". Гэты кулямёт пасля асабліва геройскі запісаўся ў лёсе гэтага байца. Аднак па чарзе...

*„...Варыў я абед,* — успамінае Пятро Плаксей. — *Зразумела, толькі адзін суп, бо пра другое блюда нават ужо і марыць не даводзілася..."*

Варыў ён гэты суп сваім таварышам-байцам, а сабе капаў акоп, бо варожая артылерыя безупынку бамбіла Сямяцічы і пераносіла агонь некуды далей.

*„Так ужо пад абед, каля другой гадзіны дня,* — піша далей ротны кухар, — *загрукатала падвода і ў гарадок уварваўся конь. Ездавы* **Бутэнка** *прывёз боепрыпасы, , крыху хлеба і крыху сала. Колькі сала, я ўжо не памятаю, але боепрыпасаў было многа, поўныя скрынкі. Мы гэта ўсё разгрузілі і паведамілі ў доты, каб прыслалі пасыльных за боепрыпасамі..."*

Да вечара першага дня вайны цэлы гэты каштоўны груз паспелі яны разнесці па дотах. Пятро Плаксей нарыхтаваў снеданне, абед і вячэру, а на дабавак раздаў байцам і афіцэрам — згодна з ваенным уставам — сухі паёк. На гэтай, нібы звычайнай мітусні, і прайшоў яго першы дзень вайны. Бегаў за вадой, рубаў дровы, паліў пад катламі, выдаваў страву. Як цешыўся б з усяго гэтага, каб не свядомасць, што за рэчкай, за Бугам — вораг, а можа яшчэ бліжэй, недзе за карчом...

Настала ноч. Плаксей адзін астаўся ў сваім акопе ля кухні...

— І не пабаяўся! — горда заявіла цётка Люба.

Ці не баяўся? Няма на свеце нармальнага чалавека, які не адчуваў бы жаху ў такіх хвілінах, калі ведаеш, што жыццё тваё на валаску. Вядома, баяўся повар Пятро Плаксей, баяўся і рабіў сваё. Вечарам быў ужо так змучаны, што і не ведаў, калі абсунуўся на дно акопа. А калі прачнуўся... Аб гэтым ужо праз тыдзень.

**Віктар Рудчык**




*На схеме: Размяшчэнне дотаў, якое вынікае з успамінаў Пятра Плаксея. 1. — Камендацкі, 2 — Пчолка, 3 — Сатурн, 4 — Нептун.*

**Імпартгумар**

# КРЫЛАТЫ ПАДАРУНАК

Трымаў чалавек на гары белага ручнога голуба. Час ад часу ён адчыняў акенца і выпускаў птушку ў блакітнае неба. Нырнуўшы ў свабоду і нацешыўшыся ёю, голуб заўсёды вяртаўся да свайго гаспадара.

Слыў гэты чалавек у горадзе вельмі гасцінным. І сапраўды, не было госця, які выйшаў бы з яго дому з пустымі рукамі. У знак пашаны гаспадар кожнаму дарыў беласнежнага турмана. Госць выходзіў усцешаны ўвагай і, вядома ж, у сваю чаргу, стараўся належна адарыць гаспадара. Ну, а голуб, як толькі новы гаспадар выпускаў яго палётаць, неадкладна вяртаўся на родную гару, да старога гаспадара. Прэтэнзій ні ў каго не было: у каго хопіць сумлення расшукваць адляцеўшы кудысьці падарунак?

Чутка аб беласнежных цудоўных падарунках дайшла да вушэй мясцовага начальства. Сакратару абшчыны, ведаўшаму прыёмам знакамітых гасцей, ідэя такіх падарункаў спадабалася, і ён адправіўся да ўладальніка турмана. Дамовіліся яны хутка. За нядрэнную плату гасцінны чалавек згадзіўся пастаўляць абшчыне для прыезджых гасцей беласнежных галубкоў. (Хто ж мог ведаць, што птушка ў яго адзіная?)

Усе былі задаволены. І старшыня абшчыны, асабіста дарыўшы заезджаму начальству цудоўныя крылатыя падарункі, і само начальства, цанiўшае пашану, і сам гаспадар голуба, заўсёды вяртаўшагася на родную гару. Ды і голуб, трэба меркаваць, цешыўся такім спосабам жыцця: раз-пораз новыя людзі вакол, рэпарцёры, маса ўражанняў і паездак.

Аднойчы чалавек, накарміўшы і напаіўшы свайго гадаванца, злез з гары і тут убачыў, што да яго хаты стрымгалоў бяжыць сакратар абшчыны.

— Хуценька давай голуба, толькі тлустага!

— Тлустага?

— Ну так, тлустага.

Чалавек пацiснуў плячыма, пайшоў на гару і прынёс птушку.

— Не, ты мяне не зразумеў. Там прыехаў адзін начальнік, ён, кажуць, абажае смажаную галубяціну. Так што хуценька засмаж птушку, а я праз гадзіну забяру.

Дзявацца было некуды, і гасцінны чалавек засмажыў свайго карміцеля.

Прыбег сакратар, сунуў гаспадару грошы і пабег са смажаным голубам.

На гэты раз птушка, вядома, не вярнулася. Ды і яе гаспадар таксама не вярнуўся ў гэты горад — назаўтра ж пераехаў у іншы, дзе зноў прыручыў іншага беласнежнага прыгажуна. І зноў пачаў дарыць яго. І зноў, кажуць, нядрэнна жыве гасцінны чалавек...

**Бане Іовановіч** (Югаславія)







## Спакуса ў дарозе

Ехаў з форсам, шумна ехаў —
Адгукалася аж рэха.
Стоп!
Спынiлася машына,
Адчынілася кабіна.
Выйшаў хлопец зухаваты
У канцы сяла ля хаты...
Падышоў да маладзіцы,
Просіць ён вады напіцца...
— Можа... даць табе сівушкі?
Нашай моцнай вясялушкі?
Спадабаецца — восць слова!
— Не благая прапанова, —
Прыгажун наш белазубы
Аблізаў сухія губы.
— Згода?
— Згода!
— Калі ласка,
Вось табе сівушкі пляшка...
Выпіў — нават не хістаўся,
Нават шчэ за руль трымаўся.
Уключыўшы той матор,
Нібы звер, далей папёр...
Раптам...
Браткі, вось прарва:
Дрэва злева, дрэва справа.
Гвалт! Няйначай быць бядзе...
І — урэзаўся ў асіну,
І — разбіў ушчэнт машыну!

...Што было далей — маўчу.
Расказаў, пра што пачуў.

**Захар Бірыла.**

Так доўга ішоў на павадзе, што пачаў іржаць.

### ПРАБАЧ!

Стаіць Волечка ў кутку і звяртаецца да мамы:

— Прабач, я больш не буду... Апошні раз кажу, прабач! Бо як потым будзеш выпускаць з кутка, не выйду!

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### У СУДЗЕ

Суддзя: Скажыце, падсудны, у якім месцы перш-наперш пачалася бойка?

Падсудны: На маёй, вашэскароддзе, галаве.



*У чаканні інспектара па тэхніцы бяспекі.*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У аптэцы пажылая пакупніца прыдзірліва дапытвае прадаўшчыцу:

— Выбачайце, мадам, я спадзяюся, у вас ёсць медыцынская адукацыя?

— Так, мадам, я закончыла медыцынскую школу.

— Даўно?

— Пятнаццаць год назад.

— Гм, спадзяюся, вы добра вучыліся?

— Так, мадам.

— Вы вучыліся ў правінцыі ці ў Парыжы?

— У Парыжы, мадам.

— Ну добра, — кіўнула пакупніца, — вы мяне супакоілі. Дайце мне, калі ласка, пачак ваты.

*

Гід вядзе турыстаў па замку. У глыбокім падзямеллі ён паказвае ім некалькі шкілетаў.

— Як яны тут апынуліся? — спытаў адзін з турыстаў.

— Яны выраашылі сэканоміць на экскурсаводзе.

*

— Да чаго ж марудна вы працуеце, Браўн! Вы хоць што-небудзь умееце рабіць хутка?

— Я хутка засынаю.



### ПУЦЁЎКА Ў САНАТОРЫЙ

— Ой, Кастусь, мне далі пуцёўку ў санаторый! — радасна ўсклікнула Маланка. — Хоць раз у жыцці паеду.

— Як гэта ў санаторый? — абурыўся Кастусь. — Ну, то бяры з сабою і парася, я яго гадаваць не буду...

### З „Весніка Задрыпоніі"
### ЭМАНСІПАЦЫЯ

Цікавае правіла дзейнічае ў фірме Эмзадрып. Пасаду сакратара-машыністкі тут можа заняць толькі мужчына, калі дырэктарам прадпрыемства з'яўляецца жанчына.

### ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ

Ці павінен у барацьбе з самім сабой перамагаць мацнейшы?

### ПАХВАЛІЎСЯ

Хваліцца сусед суседцы:

— Я, Марыя, за свой век казаўкі не абразіў.

— Толькі дзве жонкі загрыз, — дадае Марыя.

— О, дык гэта ж не казяўкі.

### ВЯЛІКАЕ ДЗІВА

Адзін гаражанін прыехаў у сяло на адпачынак і раніцой пайшоў лавіць рыбу. Падышоў да маленькага стаўка і пытае сустрэчнага:

— Скажыце, калі ласка, у гэтым стаўку можна лавіць рыбу?

— А чаго ж?..

— Значыць, калі я нешта злаўлю — гэта не будзе злачынства?..

— Ды не... Што вы?.. Гэта будзе вялікае дзіва.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## Na miłość nigdy nie jest za późno

Z repertuaru **Jacka Lecha**
Słowa: **Ryszard Czubaczyński**
Muzyka: **Adam Brzozowski**

Gdy uniesień wciąż brak,
monotonne są dni,
kiedy jakiś cień
mąci spokój ci,
to pomyśl przez chwilę
o prawdzie tych słów,
że możesz rozpocząć
na nowo żyć znów...

Na miłość nigdy nie jest za późno,
nie liczy dla niej się czas,
a więc nie czekaj na nią na próżno,
kiedy przechodzi obok nas,
lecz w każdej swego życia godzinie
idź jej naprzeciw, niech cię nie minie,
goń za nią wszędzie, chwytaj ją w ręce,
może ci będzie sprzyjało szczęście,
a wtedy innym radę dasz!
Na miłość nigdy nie jest za późno,
na szczęście zawsze jest czas...

Gdy zawiodło cię coś,
nie spełniły się sny,
gdy przekorny los
splątał życie ci,
to uwierz w tę prawdę,
o której świat wie,
że warto spróbować
i pewnym być, że...

Na miłość nigdy nie jest za późno...







### ЗАКОН ЁСЦЬ... ЗАКОН?



Колькі не пішы аб кур'ёзных законах, існуючых у сілу прэцэдэнта ў ЗША, а ўсё роўна мала. Ці прыходзіла вам калі-небудзь у галаў напаіць слана... півам? Калі вы жывеце ў горадзе Натчэз (штат Місісіпі), то лепш, каб такая думка і не прыходзіла: гэта абсалютна супрацьзаконна. У Джэферсон-Сіці катэгарычна забаронена „шалёна" скакаць на... быку. У горадзе Дэнісан (штат Айова) не варта дражніць вязняў у турмах праз краты: можаш сам апынуцца за імі. У штаце Н'ю-Джэрсі нельга разводзіць куранят — у чым бы вы думалі? — у бутэльках! Законы горада Топіка забараняюць трымаць у доме больш пяці кошак. Але, бадай, усіх пераплюнуў адзін з гарадоў у Каліфорніі. Тут можна падвергнуцца штрафу, калі будзеш катацца на роварах... у плавальным басейне.

### ВАЛЬТЭР ЖАРТУЕ

Нейкі аўтар прадставіў Вальтэру сваю трагедыю, прасіў прачытаць і сказаць сваю думку. Прачытаўшы п'есу, Вальтэр сказаў: „Напісаць такую трагедыю зусім не цяжка: цяжкасць у тым, што адказаць аўтару такога твора, калі ён пытае аб ім вашу думку".



**Калі цябе лічаць вярблюдам, плюй на ўсіх.**